і ён – выліты бацька! Яго бацька быў такі. Госпадзі!.. Як к чужому, пойдзя за гарэлку работаць. Еслі дома зделаць. Матка сячэ дровы печ вытапіць».

«Ад разумных хай бы і па дваццаць ряджалі. Дзіцёнак быў бы развіты. А як ад дурнога. Яна сама дурная… І ён… Да ішчэ гарэлку пьюць. Такі ж іх дзіцёнак будзя. Лучшэ ня будзя. Наш Сярёжка (унук) радзіўся. Ён пашоў на нашым раду. Па матцы, па мне пашоў, па Машы. Ён па нашым раду пашоў. І вот характірам такі, заботлівы. Но Варю (унучка) я не пайму, дужа ціхая, тая вадой ні замуця нікому. Яна… Хоць і мужык будзя… Яна будзя ўважаць яму. Ад харошага целяша, дак і трэска хараша. Ад дурака дурак і будзя. Як карова малошная, дак ад яе і цялёнак… Еслі цёлачка… Гаворяць, перва целіцца… Пярвустак. Цёлачку. Яна ўся пойдзя… І праўда… Харошая карова была ў мяне. Цёлачку цяліла перваю, я ўзяла аставіла. І ў калхоз цёлачак здавала, дак людзі бралі. Гаворяць: «Ідзе тут Варкіна цёлачка. Бычка здадзіма. З калхоза забраць тую цёлачку. Ета ўжо будзя вылітая матка». Харошая карова была. Дак і ад харошага целяша… І ад скаціны харошыя. Ад злыя сучкі і сабакі злыя. А як ад такія, што яна каждаму ўкланяіцца – перясігнуць і пойдуць. Ад харошага і харошая. Харошая яблана – і яблака будзя смашная. А як кіслёцця, дак кіслёцця і будзя. І ад скаціны харошыя. А як ад такія, што яна каждаму ўкланяіцца – перясігнуць і пойдуць».

«Туся ўся ў Прошку пашла. Ета мае маткі бацька і Прошкаў бацька – родныя браты. Матка мая і Прошка – брат і сястра дваюрадныя. Прошка. А вот сёстры ў яго. У іх быў Кірыла. Путны быў. А Прошка – дурак. Матка казала на Тусю: «Прошка ты выліты. Выліты нерабацень. Толькі б гарэлку піў і блядаваў. Дак ты не блядуіш. Дак ты – нерабацень». Яму што бацька гаворя, ён гаворя: «У самаго рукі не паадсыхалі. Дзелай сам». Так Прошка казаў на бацьку. Матка казала: «Туся пашла не ў Грэцкавых, па Прошках пашла». А мы ўжо з Машай. Матка казала: «А ета Грэцкавага роду». Мы гаворым: «Мам, ну твой жа брат». А матка гаворя: «Ну, што я буду дзелаць? Ён жа дваюрадны». Яго звалі Ляксей. Яго ніхто ня зваў Ляксей. Прошка – і ўсё».

*<А чаму Прошка?>*

«Дзед ці прадзед тож урэдны быў. Дак яны: «Во Прошка!» Дзед такі быў ці прадзед. І яны звалі Прошкай. І ўсі людзі звалі. «Хто-та пайшоў?» – «Прошка».

І пра сябе:

*<Вы калісьці сказалі: «Можа, я ў бабу ўдалась?»>*

«Баба наша ўсё знала, помніла, такая яна вумная была. І матка наша вумная была. Наша матка ў магазіні работала. Пакуль на шчаты шчытаць, яна умственна ўсё пашчытая, такая вумная была».

<*Што значыць «удалась»?*>

«Удалася. Баба такая была, і я ўдалась такая».

«У нашай бабы голас харошы быў. Усё баба наша казала Алёнка: «Варячка, ты і Маша крошкі падабралі мае».

<*«Крошкі падабралі?»*>

«Ну, крошкі падабралі. Ну, усё ўмела дзелаць, што баба».

Дзяцей з малых гадоў рыхтавалі да жыцця ў грамадстве, у калектыве:

«Матка наша нікалі не хваліла. Там у нас адна была: «Ой! Мае ж та дзеці!» А наша матка, усё ж дзелаім, як і нада: «Хваліць ніхай вас людзі пахваляць, я не буду хваліць вас».

Самым першым калектывам, у які быў павінен увайсці маленькі чалавек, была сям'я. І гэта адбывалася праз сумесную штодзённую працу:

«Калісь было. Матка ўранні ўстае. Начынаяць парядкі. Бацька быў. З бацькам баба, матка пагаворяць. Ішчэ ўвечары дажэ пагаворяць, што тоя і тоя нада іздзелаць. І назаўтряга бацька за сваё дзела пойдзя, матка з бабай печ топяць. Нам: «Ты бульбу чысці, ты капусту рэж ці шчавель перыбіряй…» Каждаму дзела. І ніхто ні скажа, што я ні пайду».

«Па хазяйству мы ўсі зналі. Ягорка наш, пойдама ў калхоз работаць, баба скажа: «Вот ты свіней накорміш». Ён пойдзя на агарод, нарве травы такія, ён ужо зная, шэсць гадкоў была. Ён ужо пойдзя, нарве, прынясе, пасячэ ў карыці, і дробненька пасячэ. Баба: «Буйней! Яны паядуць!» Размуця шалупаяк, бульбін, што будзя, намуця туды – і ў карыта, бальшоя карыта. Гэта ўжо яго работа. А мы ў калхозі, палоць хадзілі, матка, баба, жыта жаць. А тады старыя і малыя, усі работалі. Ён ужо на заборы сядзіць кала варот: «Усё, мам, падзелаў! Свіней накарміў і ўсё здзелаў».

Рамёствам вучылі паступова. Дзяцей аберагалі ад расчаравання і ў сваіх сілах, і ў здольнасцях. І разам з тым падтрымлівалі першыя крокі дзіцяці ў авалодванні ім тымі ці іншымі прафесійнымі навыкамі:

«Вот няправільна што-нібудзь – ну і, не разбярэш нічога. Хоць і ў кроснах. Вазьмі ня так. Не пяряступі етыя два разы, дзве ніткі ў ряд, ужо будуць іціць тоўстыі ніткі. Матка атойдзя, я гаварю: «Баб, давай я вазьму хоць трошкі ткану на кроснах, паўчуся». А баба гаворя: «Паклычыш ужо, што чорт з папом не разбярэ! Ад маткі тады ўжо аборы палучыш. Ужо так будзя сеч! Скажа: «Хто цябе пасылаў? Ета ж нада ўсё раздзелываць!»

«Ягорку быў чацвёрты гадок, як бацька памёр. І ён такі вот пойдзя, пагуляя ў Жаваронкаў, бярэ тапор: «Баб, пайду!» – «Куды?» – «Вон дзед Жаваронка лазу абсякая на гарох, дак пайду і я выбіраць». Калодачка такая па яго росту, яму гадоў сем было, і ён па-свойму скобля,

абы войстра было. «Баб, так?» – «Мой унук, харашо. Ліш бы войстра было. Лезла ў зямлю».

Але вучыцца рамёствам, як і сялянскай працы, заўсёды было справай абавязковай.

«Калісь матка. «Мам, я ня ўмею!» – «Да ты ня ўмеіш кату і хваста завязаць!» Нада ўсё ўмець. І дзелаць нада. О! Мая матка строгая была. Ня то шта, ня ўмею – ну, і сядзі. Яна скажа: «Вочы бачаць і рукі ё, не паадсыхалі. Дзелай! Ты доўжын дзелаць».

«Матка казала: «Варя і Маша – ета будуць путныя дзеўкі, а Туся – ета будзя лодырь ад камля». Ад камля – крэпкая. Яе ўжо хоць. Ужо еслі не возьмуцца за работу змалку, дак яны і вырастуць, ня будуць дзелаць. Што ў маладосці да ў дзецтві знаіш, да смерці не забудзіш».

Такім чынам вызначаецца істотная роля таго, што закладваецца ў чалавеку на пачатку жыцця.

«Мая баба казала: «Дай Бог, унучачка, штоб усё умеў дзелаць, толькі не дай Бог, штоб усё дзелаў». На практыцы гэтая жанчына не па чутках знаёма як з жаночай, так і мужчынскай працай: плотніцтвам, цяслярствам, лозапляценнем. З прафесійным падыходам да справы яна арыентуецца ў якасці матэрыялаў, тэхналагічных працэсах, выніках працы. І гэта зразумела. У цяжкія для сям'і часы, калі сям'я засталася без бацькі, яна сапраўды ўзяла на сябе мужчынскія працы.

Да асаблівасцей хатняга выхавання дзяўчынак трэба аднесці тое, што іх адразу выхоўвалі як будучых гаспадынь, жонак:

«Што тады гатавалі? Бульба, суп, боршч, кашу, калі густую, як натаўкома ў ступі проса. Матка: «Ну, паляніліся – жыдкая каша!» Вучылі: «А то замуж пойдзіце, дак мужык з голаду памрэ!» Туся наша, ана лянівая была, дак баба і кажа, твой мужык із голаду, як Іван Шух, памрэ».

«Дзеці, хадзіця паглядзіця, як суп, а то пойдзіця замуж, дак мужык па хібіцы будзя біць, скажа: «Во вырасла даўбня, а ўма ня вынясла. Ня ўмеіш супу зварыць!»

Сямейнаму жыццю вучылі на прыкладах як станоўчага, так і адмоўнага:

«Усякія ж сём'і ё. Усякія мужыкі і жонкі. Другія ў ласкі пражывуць і ў дабраце. А другія ўсё прасваряцца. Так і жывуць клычана. Наш бацька, напрымер. Матка болей на яго, што ня так. Бацька: «Ну, ладна. Ніхай па-твойму».

«Пражылі, як голуб з галубкай. Цэніць ён яе, а яна яго цэня. Вот ета яны жывуць, варкуяць, як голуб з галубкай. Ё такія сем'і! Ета сем'і аддзельныя такія ё. А еслі ён у дварэ бушуя...»

«Ета пойдзіш замуж, напрымер. Ішчэ баба нам казала. Мне яна не казала. Мне яна казала: «Варячка, ты як вырасціш, дак у цябе шаўковае ўсё, дак хазяін будзя красавацца за табой. А ты, Туся, чорны вол табе наступя. Ой! Горя цяпніш! Будзя біць-біць. Паслухая: жывая. Зноў начынаць будзя».

«Вот маткіна радня. Яго звалі Ахрэм, а яе – Хацімья. Дак на іх усё казалі: «Хадзімця к Ахрэму і Хацімьі!» Гуляць ужо бабы: «К Ахрэму і Хацімьі, можа, наварылі бурака і бацвіння». Прыходзяць: «Ну, як, Ахрэм і Хацімья? Наварылі нам бурака і бацвіння?» А баба наша, тож харошыя дзяды былі, а ета бацькава, дак ужо саедзініў Бог і яе харошаю, усе людзі казалі, і ён харошы, і баба Алёнка харошая. Вот два такіх саедзінено».

Праз клопаты аб малодшых у сям'і дзяўчынкі набывалі навыкі, якія ў далейшым маглі спатрэбіцца ім пры выхаванні ўжо сваіх будучых дзетак:

«Матка і кажа: «Адзін аднаго глядзіця! Еслі адзін шкоду дзелая, меншы, напрымер, ты ж – большая, ты бачыш, ня дай яму эта дзелаць».

«Ідом гуляць на вуліцу, матка: «Бярыця і яго». Ён крычыць за намы. Прывык жа. Матка: «Бярыця дзяцёнка і вядзіця». І Крыўцовы. Алёна Мішку вядзе. А ціперя-ка вазьмі скажы, штоб ішла гуляць на вуліцу ці к дзеўкам. Павяла дзіцёнка. Яна ж не павядзе. Скажа: «Што ты! Павяду». Культуру здзелалі. А тады не глядзелі. Было па восем у каждам дварэ. Сем. Еслі чатыры: «Што там у цябе чатыры дзіцёнкі?» Ета ўжо мала. А ціперя-ка маць-гераіня – тры. А тады дзесяць. Тады толькі маць-гераіня».

Своеасаблiва Варвара Аляксандраўна распавядае пра ролю бацькі ў працэсе выхавання дзяцей:

«Гадоў сем было ці малажэй, бацька памёр, мне было восем гадоў. А шчэ бацька быў, ён падойдзя, абнімя да пацалуя мяне і Тусю і Машу: «Ой, мае-та вы дзевачкі, залатыя ў мяне дзевачкі!»

«Бацька іграя, а ён падойдзя, малінькі, вот я помню, пальчыкамы варсая ў кнопачкі тыя… Мы ўжо танцуім, а ён будзя стаяць, і пальчыкамы. Яно ўжо не туды іграіцца, а бацька: «Вот маладзец! Ой, Ягорка, сыночык. – І пагладзя яго. – Маладзец… Гарманіст будзіш». І ён тады аж рукамы ўсімі. Бацька і кажа: «Будзя з яго толк».

Сямейнымі былі і першыя ўрокі чытання і пісьма. Бацька Варвара Аляксандраўны быў актыўным удзельнікам дзяржаўнай праграмы «ліквідацыі непісьменства». Як узгадвае мая суразмоўніца: «Наш бацька вучыў у вячэрняй школі. Узрослыя, да ня знаюць, якія буквы пісаць. Прыказ такі быў ленінскі. Штоб хадзілі ў школу. Штоб кажды чылавек

распісацца мог. А то ў нас былі і хлопцы, і дзеўкі. Яны распісацца ня ўмелі. Дак прыехаў Аляксеенка і гаворя: «Сашок, ідзі. Я знаю, што ты справісся з етым дзелам. Я табе планы дам». Дак бацька вучыў». Падчас гэтых заняткаў ён набыў навыкі методыкі, па якой потым навучаў пісьму і сваіх уласных дзяцей: «Бацька напіша букву. Сёдні – «а». «Багата ня дам». Вот сёдні «а» будзім пісаць. Напіша на бумажцы, а мы глядзім. Ну, і пішыма мы. І строчкі тры напішыма». Своеасабліва гэтыя заняткі падтрымлівала бабуля Алена Максімаўна: «Баба кажа: «Вы, дзеткі, сядзіця. Ня ў хаці. Дак на вуліцы. Як удзень. Свіней пасвіце да курэй. Вот вы і пішыце на зямле. Сцярыце і зноў пішыце». І мы на дарогах пішыма. І вучылісь». Вялікую ролю ў выхаванні дзяцей адыгралі і агульныя чытанні, якія звычайна ў святыя вечары адбываліся ў Грэцкіх: «Матка наша ўсё чытала кнігі. Яна з інтанацыяй. Красіва чытала. Кніг у нас багата было. Усё казалі: «У Грэцкава бібліяцека». Бацька кнігі ўсё... Сняжкі пачытаяць: «На, Сашок!.. Чытай дзіцям». І казкі ўсякія калісяшнія… Пагарэлі, як хата гарэла. Амерыканчыха прыдзя: «Ой, вад!.. Садзіся. Святыя вечары, дак садзіся да чытай кнігу. Я люблю». І Амерыканец… Ён харашо чытаў газеты і ўсё. «А з інтанацыяй, – гаворя, – я не магу». Сам сабе пачытая. А штоб услух. А матка наша ўслух чытая. Чытая і кажа: «Ужо ўтамілася, усё чытаўшы». Яны: «Ну, аддыхні». Не дачытая што, назаўтряга зноў святы вечар, панаходзяць суседзі. Усі з сярёдку ідуць… Ад Амерыканцаў і да Жаваранкаў. Прыдуць, сядзяць і слухаяць. Там, як цар галаву адсякаў сваёй дачцэ. Замуж хацеў за багатага аддаць, а яна ўлюбілася ў беднага. Цілявізараў не было, яны к нам хадзілі. А Верка Барысава – Алёніна матка. Яна чытаць ня ўмела». І яшчэ: «У нас багата было кніжак. Столік такі. Згарэў ён. Там поўна было! Казкі ўсякія, бажэствінныя былі. К аднаму боку. «Не чапайце, дзеці...» Мы меншыя былі, дак мы толькі з карцінкамы выбіралі. Гартаім карцінкі. А матка будзя казаць: «Што вы карцінкі вычытаіце? А будзіце хадзіць балваны дурныя!» Так і вучыліся. Прыдзім у школу. Пакуль хадзіць у школу, дак мы ўсю азбуку знали».

Своеасабліва выглядае і тое, што мы маглі б назваць урокамі народнай культуры. Самыя першыя з іх адбываліся проста па вечарах, калі спявалі бабуля, маці, бацька. Вабіла прыгажосць гукапісу, мелодыі. Песні пераймаліся і запаміналіся проста з голасу. Як узгадвае Варвара Аляксандраўна:

«Ета ж я пяю, што баба і матка прядуць кудзелю і пяюць. І Ягорка наш, так, гадкі тры. Вот сядзіма на печы, і калодзезь із смолі клодзём і пяём, мы ўсі знали».

Ужо самых маленькіх вучылі таму, што кожная песня мае сваё вызначанае для яе месца ў той ці іншай пары года:

«Песня «Як Ваня вёў каня паіць, а Варынька дзевачка да за ім бягіць». І мы яе любілі. Калісь сядзім так увечары, кажым: «А ці бабы чуяць!» Наша баба як чуя: «А-ааа! Бяспутныя. Ня пейця етыя песьні». – «Баб, чаго?» – «Ім больна будзя, што вы не воўрэмя пеяцё». Ужо нас страша. Мы тады кініма. Баба пойдзя. Мы: «Баба пашла. Давай!» І сядзім, стрэлавыя ўвечары пяём. Баба Буцікава будзя калісь, хрёснае маёй свякруха: «Ой, бяспутныя! Маткі не навучылі, дак яны, во дуркаватыя, пяюць песні абы-калі!»

А потым пачыналася самая сапраўдная навука традыцыйнай культуры:

«Як Стрялу водзяць, «вой-лі, вой-лю-лі» скрозь пяюць. Жніўныя пяюць, як жыта жнуць. А я калісь выду, ціхенька, штоб людзі ня чулі, жніўныя пяю, баба выдзя: «Ай-я-яй! Во ўжо бязбожніца. Калі папала якія пяеш». Жніўныя толькі на жніво, а я ячмень буду жаць на агародзе, ячмень і пшаніцу, і ціхінька пяю». Яна: «На што ты? Ета ж як жыта жнуць». Па ўяўленнях носьбітаў традыцыі, гэтымі тэкстамі можна рэгуляваць пачатак той ці іншай прыроднай з’явы не толькі па пары года, а нават і ў прасторы асобна ўзятага дня: «Усё песні пелі. Вот мы станім, баба і кажа: «Дажчу німа. Дзетачкі, пагукайце-ка дожч. Я вылятаю: «Баб, січас іціць?» – «Да, ідзі січас». А як ураньні рана, скажа: «Падаждзі, а то скажаць: «Во ўжо глотку разявіла. Дак падаждзі. Вон туды после абеда. Ніхай людзі рабатаяць з ранні да вечара, штоб ён ноччы ішоў». Тады ўжо: «Ну, ідзі. Цяпер пакуль папяеш, і Бог дожч…» Такім чынам практыка прыгожага пісьменства ператваралася ў далучэнне да міфалогіі, прыродазнаўства і жыцця ў грамадстве. Апошняе таксама адметна. Праз песні малая сям’я, у якую ўваходзяць толькі самыя бліжэйшыя родзічы, пашыралася да вялікай сям’і, у якую ўваходзяць і суседзі, і аднавяскоўцы: «Баба Амерыканчыха, вот на рабоці што-нібудзь дзелаіма, мы аддзельна дзелаіма, дак яна будзя гаварыць: «Хадзіця сюды, дзеўкі. Будзіма пець, і вы будзіця». Тады чагось не гаварылі пра всякая, вот толькі адны песні. Як садзяцца аддыхаць, і песні пяюць. Амерыканчыха заводзіла. І мы з імі пяем. «Хадзіця, вучыціся!» – звала. «Хадзіця, Вар, сюда! Бліжай садзіцесь і будзіма пець песьні. І вы! Ніхай пяюць! Ніхай вучацца! Нічога ніхто не гаварыця!» Там баба адна: «Ішчэ будзіш! Ці ета твае дзеці! Ета чужыя!» – «Ніхай чужыя! – яна харошая была баба. – Ніхай вучацца», – яна харошая была, баба. «А то мы, – гаворя, – памрём, і ўсё наша ў магілу пойдзя. І не будуць пець. Мы падохнім, і песьні нашы

падохнуць. Давайця, вучыцісь. І вы будзіця пець». І мы ўжэ пелі. Я панавучывалась». Пазней гэта будзе асэнсавана як традыцыя: «Як лён сеяць, усё ж хрысцяць, а я план засяваю, дак я лёнам. Думаю: «Баба ўсё лёнам. Пасеяла, зачырціла». І цыбулю. Гаварю: «Падаждзі, Сярёжка». Ён: «Баб, ты ўсё прыхамяці». Я гаварю: «Нада і ета здзелаць. Нас учылі так. І мы традыцыю ету будзім выпалняць».

За малым калектывам узьнікае вобраз дзяржавы як вялікага калектыву. На прыкладзе сям'і выпрацоўваецца дзяржаўнае мысленне:

«Я пражыла адна – ета маё малінькая гасударства. Ніхто не ўмешываўся ў маю сям'ю. Я сама распараджалася: куды, што і як».

«Сям'я. Што такоя сям'я? Як ты думаіш? Сям'я – ета малінькая. Баба наша казала. «Сям'я, – гаварю, – ета сем і я восьмая?» А яна гаворя: «Сям'я – ета малінькая гасударства. Пётр Первы калісь забоціўся. Дак ета ён над усім гасударствам. А мы – бацька забоціцца, а мы работаім. Ён нам загадывая, і экономію дзелая, і пракарміць, і надзець, і абуць, і пражыць, і штоб цёпла было. Бацька – хазяін з маткай. І штоб якую скаціну дзяржаць. Усё ета нада. А дзеці падчыняяцца. Дзеці работаяць. І калісь кажэн сваю работу зная».

Заўважу, што гэтыя высновы зрабіла бабуля Варвары Аляксандраўны, звычайная вясковая жанчына, якая нідзе не вучылася і па сутнасьці атрымала хатнюю адукацыю, і, безумоўна, не знаёмая з высновамі Карла Маркса. Цікава, што ўжо Варвара Аляксандраўна, працягваючы гэту тэму, звяртаецца да прыкладаў Леніна, Сталіна, Фідэля Кастра, Маргарыт Тэтчэр, Гарбачова ды іншых.

«Маткі дзяцей кідаюць, а ён страну такую кінуў. Такую магучаю – Савецкі Саюз. Красівая званія – наш мошны Савецкі Саюз. А ён кінуў. Таво шта дурачок – мечаная галава. Страна, як сям'я бальшая. А ён хляпнуў да пайшоў. Ён быў важак. Ляксанаў калісь, сядзім, цілявізар глядзім, ён гаворя: «Во гад! Кінуў страну бальшушчаю. І хляпнуў дзьвярямі і пайшоў. Ён жа, як бацька. Сям'ю такую!.. Страна такая мошная. Дак ета сям'я яго. Ты ж глядзі. Закрыў дзверы і пайшоў. Кінуў усё. Гад ты, гад! Разваліў страну». Чорт страшэн, а ён ішчэ страшней. Столькі народу пагубіў, паразліваў сьлёзы. Во Расія ўжо аддзельна, Беларусія аддзельна».

І пры гэтым яна зусім беспраблемна і неяк арганічна звяртаецца да апошніх палітычных падзей, што адбываюцца ў сусвеце. Адна з нашых апошніх размоў адбывалася падчас сакавіцкіх падзей 2014 г. ва Украіне. Адсюль і наступнае:

«Янюковіч… Кінуў, да пайшоў. А як кірса ўжо ў штаны сыпіцца, няўдзержа, прыйшоў: «Вы ж мае дзеці». Цётка Зена расказывала: «Чаго прыйшоў. Ты ж тады кінуў нас і голых, і галодных. У школу пайшлі. Ну, не ў чым іціць дажэ. Мне хоць бы пракарміць. Дак тады ня бачыў». Так і Янюковіч. Кінуў. Сваю сабраў сям'ю. А вы народ. Як-та ты, хазяін, кінуў? Як пастух кароў. Разыходзьцесь, куды хочыця, а я пайду куды мне нада. Я ў Расіі жыву, ня трогайце мяне». Нада падумать. Ета людзі. Сам сябе збярёг. Дак ты ж зберяжы і людзей усіх. А ня то шта кінуў. Біцесь, давіцесь».

Падобнае параўнаньне, на мой погляд, мае права на існаваньне. Яно цалкам адпавядае вызначэнню, якое аднойчы зрабіла яе бабуля Алена Максімаўна: «Сям'я – ета малінькая гасударства».

Варвара Аляксандраўна Грэцкая шмат чаго пераняла ад сваёй бабулі, якая, у сваю чаргу, у размовах з унучкай часта спасылалася на сваіх «бабу» і «прабабу», што дае падставы вызначыць зберажонае ад яе як традыцыйнае.

На мой погляд, асоба Варвары Аляксандраўны пераканаўча пацвярджае слушнасць сістэмы выхавання дзяцей, якая існавала ў сям'і Грэцкіх – сям'і па вялікаму рахунку традыцыйнай для вёскі Амяльное.

Літаральна ўсе сяброўкі Варвары Аляксандраўны, з кім мне даводзілася размаўляць, адзываюцца аб ёй толькі самымі добрымі словамі:

«Варвара кароў даіла. Та самая завадніца ў ніх была. Ой! Яна харашо. І работала, і пела. Удава тожа жыла. Горя хватала. У яе хлопец».

«Варька – баба агністая. Як агонь, работая. Што ні возьміцца, дак гарыць у руках. Вот ета і называіцца агністая. Усі так казалі: «Вон баба – што агонь. Шуруя ва ўсе канцы. І Варька такая. Баба на ўсе рукі. На ўсё. І пець, танцаваць і работаць – і што хочыш з Варькі. Ета ўжо работніца на ўсе рукі, каліcь казалі».

І сама пра сябе:

«Калі будзіш у Алёны Краўцовай, дак распытай пра мяне. Яна раскажа. Я дзелаць, дак дзелаю. І ў калхозі, штоб заведушчы не прыйшоў і не сказаў: «Ідзі-ка сюды, – за рукаў, – перядзелай!» Ка мне нікалі, гаворяць, камар лыча не падточа. А другая цяп-ляп і пайшла. Любыя бабы ё і мужчыны. Здзелаюць, дак люба ўзяць у рукі тую вешч. А ё. Цяп-ляп. Кіня».

І яшчэ адзін ўспамін, які для яе вельмі дарагі:

«Калісь баба Амерыканчыха на мяне: «Ты – на ўсё. І пець, і танцаваць, ну і работаць. І Маша ваша не дакажа табе. А Туся. Ета саўсем не дакажа».

Не азіраючыся на грунтоўнае, вызначанае як «навесці на пуць» і «даць жызню», у сялянскім асяроддзі падсвядома існуе і пяшчотнае,

глыбіннае, асабістае: «Я гаварю: «Ой, баб, як мне жыць?» Яна гаворя: «Не журыся. Ты яшчэ маладзенькая. Як табе жыць. Ты пражывеш. Па табе бачу. Як-нібудзь пражывом. А пад старасць нада падумаць». Я гаварю: «Баба, а ты думала?» А яна і гаворя: «Вы ішчэ во такія былі, а я ўжо думала: «Хто мяне пахавае? З кім я». Я гаварю: «Баб, ну і з кім ты рашыла?» – «А выбрала із пяці вас адну цябе». Я гаварю: «А чаго?» – «Бачу, што ты сама не з'ясі, а: «Баб, на-ка пакушай».

Гэты аповед з'яўляецца жывой ілюстрацыяй да зафіксаванага напрыканцы XIX ст. і прыведзенага ў акадэмічным выданні «Пахаванні. Памінкі. Галашэнні»: «Побач з іншымі клопатамі аб «люцкей смерці і пахове» беларускі селянін ставіць таксама «галашэнне» над сабою. Гадуючы сына, бацька верыць, а маці, не тоячыся, гаворыць, што «ён закрыець мае смяротныя вочынькі і прыхаваіць мае костынькі»; дачка – дапоўніць «людскасць»: «пріляціць шэрай зазуляй і жаласна прыкукуіць». У гэтым апошняя надзея селяніна, у ім ён бачыць вянец усёй працы, пакладзенай на выхаванне дзяцей».

Баба Алена не памылілася ў сваіх спадзяваннях на маленькую ўнучку: «І баба памёрла ў нас. Дзед памёр. І бацька малады памёр, трыццаць сем гадоў. А баба з намы жыла, пакуль і памёрла. А матка ўперяд памёрла. На тры гады. Са мной баба жыла. І я бабу пахавала. Са мной яна жыла».

*Дадатак 2*

## «Сям’я – ета малінькая гасударства»

*Фрагмент парэміалагічнай карціны жыцця п. Амяльное Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці*

Значнае месца ў парэміалагічным фондзе маёй суразмоўніцы займаюць фразеалагізмы, у якіх адлюстраваны вопыт сямейнага жыцця амяленцаў ва ўсёй яго шматграннасці і супярэчнасцях. І гэта зразумела, сямейныя прыярытэты – адныя з самых істотных у жыцці чалавека. Сям’я – гэта калектыў, ад яго чалавек ніколі не адрываецца, і ў ім ён паслядоўна на працягу свайго жыцця выконвае самыя розныя ролі. Для жанчын – гэта: дачка, нявеста, жонка, нявестка, маці, свякроў, унучка, бабуля. Для мужчын – гэта: сын, жаніх, муж, зяць, бацька і г. д. І практычна ва ўсіх азначаных ролях чалавек з’яўляецца суб’ектам альбо аб’ектам фразеалагізмаў.

У вышэйшай ступені афарыстачнае вызначэнне сям’і зрабіла бабуля Варвары Аляксандраўны Алена Максімаўна: «Сям’я – ета малінькая гасударства. Пётр Первы калісь забоціўся. Дак ета ён над усім гасударствам. А мы – бацька забоціцца, а мы работаім. Ён нам загадывая і эканомію дзелая, і пракарміць, і надзець, і абуць, і пражыць, і штоб цёпла было. Бацька – хазяін з маткай. І штоб якую скаціну дзяржаць. Усё ета нада. А дзеці падчыняяцца. Дзеці работаяць. І калісь кажэн сваю работу зная».

«Напрымер, ты ў сваёй сям’і знаіш, што к чаму. Гаворяць: «У каждым гасударстві ё прэзідзент, у каждай хаці – хазяін». А хата, сям’я – ета малінькая гасударства. Ты – прызідзент у хаці, хазяін, бацька: знаіш і грошай колькі, і хлеба колькі пракарміць дзяцей, і пра ўсё ты знаіш: і сэканоміць знаіш, што нада прадаць, да дзецям тоя і тоя».

Баба гаварыла пра сям'ю. Сям'я жыве. І харошая сям'я, і дзе алкашы, і дзе злыя людзі. Сварку падымяць. Дзе ўстаюць ціха-мірна і лажацца спаць. І дзень пройдзя мірна. Сям'я – ета малінькая гасударства. Бацька – міністр. Жонка можа ўказаць, баба. Дзеці ета патом. Дак яна ўсё казала: «Сям'я – ета малінькая гасударства. Плахія – значыць, будзя вайна ў хаці. А харошая сям'я – у іх усягда лад, усягда смех. Толькі бацька кіўне пальцам. Сям'я – ета малінькая гасударства. Парядак штоб быў, цішына, парядак. Што здзелалася ў дварэ, штоб ні грама чужы ніхто не знаў. Матка скажа. А наша дзела дзецкая. І ўсё баба казала: «Ваша дзела дзецкая! Ідзіця лучшэ, як нада бряхаць што-нібудзь, песенкі пейця». І пра сябе: «Я пражыла адна – ета маё малінькая гасударства. Ніхто не ўмешываўся ў маю сям'ю. Я сама распаряджалася: куды, што і як».

У стварэнні сям'і вялікая роля адводзіцца шлюбу: «Не паймаўшы сокала, пер'е не скубі, не назваўшы зяцем, хлопца не кармі».

У выбары спадарожніка жыцця перавагу аддавалі пачуццям: «Ліш бы мілка (ці мілы) па душэ, пражывом і ў шалашэ. Можна жыць і ў шалашэ, ліш бы мілы па душэ. Ліш бы мілка па душэ, пражыву і ў шалашэ. Дзеньгі – прах, адзёжа тожа, а любоў усяго дарожэ».

Стварэнне сям'і пачынаецца з выбару спадарожніка, і гэта справа ў вышэйшай ступені сур'ёзная. Да абыякавасці, паспешнасці ў вырашэнні гэтага пытання ставіліся з іроніяй. І як сведчаць парэміі, гэта тычыцца як мужчын, так і жанчын: «Крыва-хрома – пагляжу дома. Галава хоць і авечая, ліш бы ж чылавечая. Хоць яловаю, да новаю. Які ні Панцялей, да душэ весялей». З іроніяй ставіліся і да залішняй пераборлівасці: «Пад выборкі падкіня чорт аборкі, дак ні разбярэсся, з якого бока пачынаць, з якого канчаць».

Паводле меркаванняў носьбіта традыцый, гэты выбар павінны быць на ўсё жыццё: «Першая жонка – шаўковая, а ўтарая – пaскановая, а трэцяя – пяньковая. Які чорт найдзіцца, ніхай з такім і гарюя. Дай, Божа (Бог), первым куском удавіцца, толькі ні паследнім». Усё баба наша казала: «Дай, Божа, первым куском удавіцца, толькі ні паследнім… Штоб раз замуж хадзіць, штоб пашоў, які ё – усё. А што ў другі раз ужо, дак ета, як пазаўчарашні боршч». Прыказка такая… Усі ж тады так казалі: «Дай, Госпадзі, первым куском удавіцца, да не паследнім». Пашоў, штоб і жыў. А што ета… Другія мужыкі… Тым ні ўладзіш, то тое ня так… <…> Штоб первым, а не паследнім… Штоб пажаніўся і жыў, сколькі табе Бог дасць. А як кідаяць, дзяцей… Другая жонка, як пазаўчарашні боршч. Гаворяць: «Другая жонка, як пазаўчарашні боршч…» Пазаўчарашні боршч смачны? Калісь боршч зваряць… Здору там каплю с цыбуляй… Цыбулю,

да патаўкуць туда, абы пах трохі цыбуляй… Да здор, ты знаіш, што такоя. Як боршч тэй паставяць, будуць казаць: «Сёдні боршч ізваряны, як другая жонка…» Другая жонка… Рэдка жывуць харашо, а то ўсё ня ладзяць. К первай прывыкая чылавек. С первай жывеш, прывыкаіш… Якая ўжо ё, то і ладна. Гаворяць: «Крыва-хрома – агледжу дома». *<Боршч – учарашні альбо пазаўчарашні?>* Пазаўчарашні… Гаворяць: «Другая жонка, як пазаўчарашні боршч. Пазаўчарашні… Чэряз два дні будзіш ты боршч тэй? Хоць і ў халадзільніку пастаіць, усё раўно ўжо ня то. Другуя возьмя, і не зладжываіцца… Пакуль прывыкнуць, паміраць нада». Але ж бывая і так: і чым так, што «Адной гаряваць, як с табой красавацца… Я за табой буду так красавацца, як адна гарюю». Тым не менш, замужжа, нават аднадзённае, надавала жанчыне ў вачах аднавяскоўцаў больш высокі статус: «На дзевак, каторыя ідуць. Не замуж, у чыкірду ўдваіх пагуляюць. Вот тады. Забірэмініла. Картуніха пашла: «Ты знаіш, Арына, твой шкоду здзелаў, дак давай хоць у бабу перахрысціма іё. Давайця іздзелаім па закону». Ета ідуць ужо, абы перяхрысціцца, што «я замужам была». Свадзьба пройдзя, называіцца «ў бабы перяхрысцілася». Пашла замуж. Хоць яна і дзень пражыве, а ўсё раўно: «Вот яна замужам была».

Верагоднасць нявернасці мужа ці жонкі, здрады прасочваецца ў наступнай фраземе: «Крывую кабылу ніхто ня ўкрадзя, а крывую жонку ніхто не палюбя».

Сямейнае жыццё праходзіць па-рознаму. Цытую Варавару Аляксандраўну: «Хто пражыве красіва. А хто абы-як пражыве. Бывая, што пажэняцца, туды-сюды, не за тое, дак за тое, хоць яна будзя далдон такі, хоць ён будзя такі. Будзя без канца. Ё-німа, ён табе прычыну найдзя. Другія пражывуць красіва». Як сведчаць прымаўкі, падставы для непаразумення маглі даць як жонка, так і муж: «Ні за крупы, дак за сала, ліш бы за яго толькі стала». І разам з тым: «Куды не варочай, дак усё адно ў бабы карочай».

«Адна пара жыве, як голуб з галубкай, другая, як кот з сабакам. Адна жонка пражыве, як у трэсках, другая як у Бога за пазухай, як у вянку. Ну, ета вот гаворяць: хто харашо з мужыком жыве ды багата, дак гаворяць: вот, жыве, як у вяночку. Шчаслівыя такія ё: жыве, мужык такі харошы, і жыве, як у вянку. А вянок – ета ж з цвятоў. Прэлесць. Усё на Амерыканчыху казалі. У яе мужык харошы быў. Ён век не мацюкне, нішто. Харошы быў. Сямейны такі. Дак усё баба казала: «Ой, Прося, ты пражыла як у вянку!» І ўсі так казалі: «Ты ўжо жывеш, як у вянку». А ў другіх мужык такі: то нерабацень, то п’яніца. Ня то шта ў вянку, у трэсках – і то не скажыш».

Вопыт жыцця падказвае, што «сілай люб (век) ня будзіш»: «Калісь жа сілай жанілі, то багатых бралі, то якіх. Калісь у нас Грыня казаў: «Любіў Моціцу (Моця – звалі). А бацька сказаў: «Да бяры Проню. У іх і пчолы… – Калісь жа на багацтва. – У іх і сад харошы, і пчол багата». Сем дзяцей нараджаў. Дак казаў: «Сілай люб век ня будзіш». <...> Дак калісь казаў: «Як любіў Моцю, дак рад бы яе пабачыць. Вады ідзець, і я іду на работу ўранні. Ваду нясе. А я астанаўляю яе і ручачкамы абглажу кругом і пацалую. І на цэлае суткі яе ў мяне на губах вясіць. Так люблю». Бабы пытаюць: «А Проню сваю?» – «С Проняй я жыву, як лёд і з вадою». Лёд зімой харош, да рад бы растаць скарэй. Як вясна ідзець, дак скарэй растае, штоб бягучы быў, штоб не стаяў, штоб па ём ня ездзілі: «Растаюся с табою, як лёд і з вадою». Але ж, калі жыць у каханні, то: «Жывём мы с табою, як мёд і з пчалою…» Што тут лішняга і што тут недахват… Усё скомкана, як у круглы мечык … Футбол… Нідзе дажэ завайстрынкі німа… Што-та ё ангельская, што-та ё божаская, што-та ё не абідзіць адзін аднаго… А другія за гаўно сабачая… І яны такую струшню падымяць, што Божэ, ты мой Божэ… А ў іх німа етага… Пра такіх гавораць: «Ета такая пара, што чорт лапці стаптаў і ў кучу сабраў…»

У прыказках і прымаўках, прысвечаных жанчыне як жонцы, акрэсліваецца яе роль гаспадыні. Гэта вызначаецца як станоўча, так і адмоўна. Але ж у гэтым пытанні шмат залежыць ад мужчыны: «Гаворяць: «Вумная жана, як бочка пшана»: як харошы мужык, дак будзя бочка пшана стаяць. А як у п’яніцы якога, дак там і стакана на суп німа. Як мужык харошы, дак ён усё прыцяне. А як нідбала. <*Нідбала?*> Ну, ніякі. Дома нічога ні дзелая. І бабы ёсці-ка нідбалы. Такія – як ё, так. Гаворяць: «Вумная жана, як бочка пшана…» Дак пойдзя, пшана набярэ, да і кашу зваря… А як німа пшана, вот падумай: «З чаго зварыць і як зварыць…» Да ні малачка, да нічога німа… На вадзе… І то нечага… Ну, не з чага! А ціперяка… Наша як пачане Ірка… Ой, Госпадзі! А я тады не пераджываю: «Ета ты не бачыла горя такога… Дак гаворыш: «Я прыду з работы, смятаны вазьму, да сяду, да і з булачкай з’ем, да з чаем…» Калі б ты прышла і думала: «Дзе ў суп хоць бульбіну ўзяць, пакрышыць, да хоць штоб слізкая вада была…» Але ж разам бывае, што «Жонцы аддай хоць і вала, адна хвала». Гэта пра  пра тое, што як гаспадыня жанчына павінна быць беражлівай. Адсюль: «Гаворяць: Як харошая жана, дак у запасі бочка пшана».

Уяўленні пра сям’ю цесна пераплятаюцца з уяўленнямі пра свой дом, свой кут, пра гаспадарскі клопат аб ім. У гэтым плане паказальны выраз «гняздо звіць». Як тлумачыць Варвара Грэцкая: «Гняздо віць…

Ажаніцца і хату сабе зделаць». Тое самае ўзнікае і ў вызначэнні «з аднаго гнязда вывеліся»: «Ягор сказаў: «Мы з аднаго гнязда вывеліся. Мы ж сямейныя. Адна сям'я. Адзін бацька. Мы даўжны разабрацца, а ня то шта гаўкаць адзін на аднаго, абы што гаварыць». Мець сваё гняздо, свой кут, свой вугал, свой дом, дах над галавой вельмі істотна: «Дома і салома ядома». Ідзе кулік прывык? У балоці. Харашо ў гасцях, а дома лучшэ. Крыша над галавой. Крышы над галавой німа. Свайго вугла німа. «Ня ў рямках жыць. Не ў сваём кубле жыць. Варона наўспрямкі літая, толькі дома ні бывая. Варона і дзе ні літая, а дамоў пападая. Чужая хата – злей ката. Чужыя парогі абіваці, дак будуць пустыя вуглы ў хаці».

Вясковыя сем'і вызначаліся вялікай колькасцю дзяцей. Як сведчыць Варвара Аляксандраўна: «Калісь жа дзяцей была па восем, да па дзесяць. Ета ў каго пяць, дак ета мала. А ета па столькі было дзяцей, вазьмі: сем, восем, дзевяць, дзесяць, а ў адных адзінаццаць было». Адсюль і вызначэнні: «Што год, то удод».

*<Якая птушка самая багатая, а якая самая бедная?>* Самая багатая. Якая багата выводзіць цыплят. Я так распалагаю. А бедная. Тры яйцы якіх звароча. І ўсё. Па-мойму, так.

«Куды ты шчэніш іх?» – на Соню калісь усё казалі, як кажды год ряджае жонка. Ня ўспея аднаго радзіць. Ішчэ тога груддзю корміць, ужо забярэміняе. Дак яны: «У мяне жонка. Як год, так удод. Як год, так удод». Цяперь жа не ряджаюць столькі. У Ціпуна трынаццаць дзяцей ці адзінаццаць.

«Калі б ня мёрлі, дак бацьку з маткай ад стала адцёрлі».

Вялікая роля адводзілася выхаванню дзяцей. У вырашэнні гэтага пытання ўлічваецца як прыродная спадчыннасць, так і асабісты прыклад старэйшых сямейнікаў: «Дай Бог дзяцей, да ў дзяцях штоб пуць быў. Ад харошага целяша дак і трэска хараша (З харошага целяша і трэска хараша). Яблака недалёка ад ябланы коціцца. Ад салодкіе салодкая сагніе, дак парасткі пойдуць. Ад горькіе горькая. Які дуб, такі і клін – які бацька, такі і сын. Якая матка, такая будзя і дзіцятка. Крошкі падабраць. Узрослыя круцяцца, маладыя вучацца. (Бальшы круціцца, а малы вучыцца. Стары круціцца, а малы вучыцца). Бацькава (маткіна) юха. Дзяцей трэба ня толькі нарадзіць, але яшчэ і на пуць навесці». Адсюль і: «Усягда… Як прыбытак ё… Ці цялят па восені шчытаяць… Кажаць: «Дзяцей шчытай тады, як жаніць будзіш… А як ішчэ растуць, ета – смецце называіцца… Ета ня дзеці, а смецце… Ішчэ захварэе, калдыб – і німа».

Адносна сваёй сям'і Варвара Грэцкая зрабіла ў вышэйшай ступені важнае вызначэнне: «Спасіба матцы, што радзіла, а баба ўзрасціла».

Тым не менш, здараюцца і выключэнні, адсюль і: «Сатана чорта радзіла (у лапцях). У каждам сяле па чорціку, і ў каждай сям'і па чорціку. У сям'е (у раду) не бяз вырадка». Таксама не засталіся па-за ўвагай не родныя бацькі і не родныя дзеці: «Не радзіў – не ліжы. Чужы чужым і пахня. Свайво дзіця із-за пазухі накармлю, а на чужога рукой махну». Аднак і свае дзеці – гарантыя на падтрымку ў старасці: «Бацькі не даўжны есць дзяціны хлеб». Усі так казалі: «Не дай Бог, штоб бацькі елі дзяціны хлеб». Ета горькі-горькі будзя. І ўсі так казалі. Калісь Жаваранка казаў: «Не дай Бог мне… Дзяцінага хлеба есць ня буду…» Супам карміла нявестка аўсяным… Аўсянка калісь была. Людзі бралі свінням, парасятам малінькім… Аўсянку жыдкую варылі, малаком забеляць, да і дадуць… Яны елі. Так і яму… Ня дай бог дзяцінага хлеба бацьку есць… За тваі грошы будуць купляць і цябе ўпрякаць. <…> Наша баба казала: «Не дай Бог, штоб матка дзяціны хлеб ела з бацькам. Дай Бог, штоб дзеці елі бацькаў…» Так ета не ўпрячоны… Бацька з маткай дасць грошай ці што і доўгу не пытая, што ты мне доўжэн. А сын скажа: «Ты мне доўжна…» І пад'есць, дак дзеці скажаць… Бацька атрэжа хлеба, дак скажа: «Ты мой хлеб еш…» Мне бальшы сказаў: «Дакуль я буду цябе хлебам карміць?» Я гаварю: «Я тваёй халоднай вады не напілася… Я ў грашах купалася… У мяне дваццаць пяць тысяч тымы грашамы савецкімы прапала».

Не застаюцца без сваёй парэміі зяць, нявестка, цесць, цешча, нявестка, зяць: «Звон павесіць на хвортачку (нявестку ў двор узяць). Цёшча, як асінавая рошча: век ніхто ў асінавую рошчу аддыхнуць ні ходзя – пахадзі па асінніку па том. Там і лісця – і тоя горькая».

<…>І пра лазу казалі: «А мая цёшча, як лазовая рошча». У лазе ніхто ні аддыхая, толькі адонкі насцілаяць. Ну, гэта, безумоўна, з пункту гледжання зяця. Але час ад часу зяць ладзіўся к цёшчы на бліны: цёшча ж ладзя зяцю, штоб жыў, дачку не праганяў.<…> Багата тады казалі. «Куды вы ідзіцё?» – «Пойдзіма к цёшчы на бліны». Такая прыказка была. З цесцем адносіны ў зяця, паводле прыказак, зусім іншыя: «Цесць бача чэсць». Цесць любя, штоб была чэсць. Усі гаворяць: «Цесць любя, штоб была чэсць». Ён і зяцю памажэ. <…> Як харошы зяць, памагая. Дак і ён памагая. А еслі плахі. Дак усё раўно нада – твая ж дачка за ім замужам».

Зяцю ў колькасным плане на прыказкі, прымаўкі пашчасціла больш: «Зяцкі хлеб – сабацкі». «Казаў маёй кумы мужык, у зяццях жыў: «Будзя ў мяне сын, нікада ў зяцці ні аддам». Я гаварю: «Не аддасі?» – «Не. Ета нада ката, і тога: «Кот Катовіч. Драствуй, Кот Катовіч. І сабаку нада пабацюшку называць». І разам з тым: «Зяць любя ўзяць, і дзеці любяць не празяваць. Хлеб – ня зяць, а можна яго ўзяць, да з'ядаць». «Баб, чорствы

хлеб!» А яна: «Хлеб – ня зяць, а можна яго ўзяць, да з’ядаць. Ета зяць плахі, дак горя. А хлеб – чорствы. Ці які ужо паплеснеўшы, абрэж, да із’еш». Ета зяць – дак ён вечна ўрэдны. А хлеб з’еў, пайшоў, высраў, да і набак. А заўтры свежы спёкся».

Не абдзяляюцца пареміяй тыя, хто не абзавёўся сям’ёй альбо страціў яе: «Як бабыль. Удавіная зіма. Адной жывучы, нада і сцаць бегучы. Да тых пор ты княгіня, пакуль мужык твой ня згіня. А як мужык твой загіня, дак ніхто табе шапкі ня знімя. Да тых пор пападзя княгіня, пакуль поп ня згіня. А як поп згіня, ніхто і шырынкі не раскрыя. У старасць ня ўвёў, і з маладосці ня вывеў. Адна галава – не бядна, а хоць і бядна, дак адна».

І самая незайздросная доля ў старога чалавека, які жыве ў адной хаце з дзецьмі і ўнукамі: «Старая баба, як таўкач у ступі. Што стары скажа, што сабака брэша». У старасці дзве радасці, баба казала. Я гавару: «Баб, як пражыць на свеці, штоб добря было?» А яна мне гаворя: «Пра маладосць ня думай, а нада думаць пра старасць, што сілы німа. У старасці дзве радасці. Сілы німа. Рад бы здзелаць, а сілы німа. І чуствуіш, што сілы німа. Мешаіш у дварэ. А малады. Куды нада, і пайшоў, і здзелаў. Сіла ё. Німа сілы работаць. Рад бы здзелаць, а сілы німа. <*А другая радасць?*> Ты мяшаіш у дварэ. Ужо лішні. Падрастая новае пакаленне, ужо табе ні жаласці, ні міласці. Жыві, як пень. <*Як пень – гэта як?*> Як пень стаіць. Ён нікому ня нада. Мяшая, ссякуць к чортавай мацеры. <*Першая радасць – «рад бы здзелаць, а сілы німа». А другая?*> А другая – мяшаіш у хаце. На што стары ў хаце. <*Дак якая ж гэта радасць?*> Ці ты ні панімаіш? Плахія радасці. І адна, і другая. І сілы німа, і мяшаіш у хаце.

Безумоўна, я не магу сказаць, што гэтая публікацыя прэтэндуе на завершаную фразеалагічную карціну сямейнага жыцця амяленцаў, паколькі, як вызначае Варвара Аляксандраўна: «Усяму е прыказкі. Пападзецца к разгавору, яна сама выскача. А так уздумаіш, не прыдумаіш». «Ці іх напамяць усі знаіш? Ета прыдзіцца к разгавору, дак гаворыш. Ці та ўсі будзіш помніць прыказкі? Іх мільён на свеці».

Варта адзначыць, што я ўжо не першы раз звяртаюся да вопыту сямейнага жыцця Амяльнога. У 2014 годзе мной быў апубікаваны артыкул «Беларуская народная педагогіка ва ўяўленнях носьбітаў традыцыі», пабудаваны на сямейных успамінах Варвары Аляксандраўны Грэцкай. І, на мой погляд, прыказкі, прымаўкі ды іншыя ўстойлівыя адзінкі на тэму сям’і з яе аповедаў істотна дапаўняюць карціну сямейнага жыцця амяленцаў.

Аўтар выказвае шчырую падзяку ўнуку Варвары Аляксандраўны Грэцкай Сяргею Сяргеевічу Грэцкаму за дапамогу ў выданні гэтай кнігі.

16+

Навукова-папулярнае выданне

**Лапацін** Генадзь Ісаакавіч

ПАСЛЯДОЎНІЦА

*Варвара Грэцкая – выбітны носьбіт беларускай народнай традыцыі*

Адказная за выпуск М.А. Беразоўская
Тэхнічнае рэдагаванне і вёрстка В.М. Сакуновай

*На вокладцы здымкі Варвары Грэцкай пачатку 1950-х гадоў і Генадзя Лапаціна і Варвары Аляксандраўны Грэцкай 2015 года*

Падпісана ў друк 15.06.2023 г. Фармат 60x84 1/16.
Папера афсетная. Гарнітура “Times New Roman”.
Ум. друк. арк. 7,44. Ул.-выд. арк. 6,36. Тыраж 99. Заказ № 876.

Выдавецкае і паліграфічнае выкананне ТДА “Барк”.
Пасведчанні аб дзяржрэгістрацыі ў якасці выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/190 ад 19.02.2014 г., № 2/46 ад 20.02.2014 г., № 3/584 от 17.03.2014 г.

246050, г. Гомель, пр. Леніна, 3
Тэл. (0232) 50-68-73, 50-34-71.
odobark@yandex.by